

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# наша СЛОВА.pdf



**Чацвёрты год выдання** **№ 5 (161) 29 студзеня 2025 г.**


## АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ




Папярэдняя інфармацыя аб колькасці галасоў выбаршчыкаў, пададзеных за кожнага кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь:
Гайдукевіч Алег Сяргеевіч - 2,02 працэнта;
Канапацкая Ганна Анатольеўна - 1,86 працэнта;
**Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч - 86,82 працэнта;**
Сыранкоў Сяргей Аляксандравіч - 3,21 працэнта;
Хіжняк Аляксандр Мікалаевіч - 1,74 працэнта;
супраць усіх - 3,60 працэнта.

Яўка выбаршчыкаў на выбарах Прэзідэнта Беларусі склала 85,70 працэнта. Такія даныя ў Інфармацыйным цэнтры агучыў старшыня ЦВК Ігар Карпенка, перадае карэспандэнт БЕЛТА.
У Берасцейскай вобласці атрымалі бюлетэні 90,56 працэнта грамадзян, у Віцебскай - 86,39 працэнта, у Гомельскай - 91,54 працэнта, у Гарадзенскай - 89,28 працэнта, у Менскай - 86,71 працэнта, у Магілёўскай - 92,64 працэнта, у г.Мінску - 69,72 працэнта.



## 35 гадоў таму беларуская мова стала дзяржаўнай: шлях да Адраджэння

26 студзеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў закон "Аб мовах", абвясціўшы беларускую мову адзінай дзяржаўнай. Гэты дакумент стаў важным крокам у адраджэнні нацыянальнай ідэнтычнасці і культуры.

СПРАДВЕЧНАЯ ШАНУЙ ТВАЯ ПАВАЖАЙ СТАРАЖЫТНАЯ ГАВАРЫ ШЧЫРАЯ БЕЛАРУСКАЯ РОДНАЯ МІЛАГУЧНАЯ ЛАСКАВАЯ ЛЮБАЯ ПРЫГОЖАЯ МОВА

***"Мова - гэта не толькі сродак зносін, але і душа народа, аснова яго культуры. Жыве мова - жыве народ"***, - сцвярджалася ў прэамбуле закона.

Закон стымуляваў выкарыстанне беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця: ад адукацыі да побыту. У краіне з'явілася больш літаратуры, газет, часопісаў і нават коміксаў на беларускай мове. Гарады і вёскі ўпрыгожыліся шыльдамі на роднай мове.




Аднак працэс актыўнага развіцця беларускай мовы быў спынены пасля рэферэндуму 1995 года, калі расейская мова атрымала статус другой дзяржаўнай.





# СІМВАЛЫ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ

Падчас выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выбаршчыкам, якія галасавалі першы раз, уручаліся падарункавыя выданні “Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь” і кніжачкі “Сімвалы суверэннай Беларусі”.

Ну, з Канстытуцыяй усё ясна, а “Сімвалы...” выклікаюць пэўную цікавасць. Што зараз лічыцца важным для маладых беларусаў, што яны павінны ведаць і чым ганарыцца?

У кніжаццы два раздзелы: “Дзяржаўныя сімвалы” і “Нацыянальныя сімвалы”.

Дзяржаўныя сімвалы: Сцяг, Герб, Гімн, Канстытуцыя.

А вось на нацыянальныя сімвалы глянем бліжэй:

**1. Бусел**



**2. Зубр**



**3. Лён**



**4. Васілёк**



**5. Бульба**



**6. Рэкі і азёры**

**7. Батлейка**



**8. Арнамент**



**9. Слуцкі пояс**



**10. Народнае мастацтва**

**11. Ў (у нескладовае)**



Сама беларуская мова ў спіс сімвалаў Беларусі не трапіла. Але артыкул пра мову і літару **“ў”** ёсць. У прыватнасці:

*“Адной з характэрных прыкмет кожнага народа, нацыі з'яўляецца мова. У мове адлюстроўваецца светаўспрыманне народа. Нацыянальная мова беларусаў - беларуская...*

*...Беларуская мова мае доўгую гісторыю развіцця. Беларускія словы можна сустрэць у пісьмовых крыніцах XIII - пачатку XIV стагоддзя.*

*У Вялікім Княстве Літоўскім (ВКЛ) старабеларуская мова была афіцыйнай мовай справаводства. З сярэдзіны XVII і да пачатку XIX стагоддзя ў сілу розных геапалітычных чыннікаў беларуская мова развівалася пераважна ў вуснагутарковай форме, а не ў літаратурна-пісьмовай, што адбілася на развіцці беларускага правапісу.*

*Сучасны перыяд развіцця беларускай мовы звязаны з імёнамі класікаў беларускай літаратуры: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Вінцэнта Дуніна-*

*Марцінкевіча, Цёткі (Алаізы Пашкевіч) і іншых празаікаў і паэтаў, а таксама з развіццём цікавасці да нармавання гутарковай мовы сярод навукоўцаў-філолагаў.*

*Літара "ў" - дваццаць другая літара ў беларускім алфавіце. Падобнай літары няма ні ў адным алфавіце моў свету, у тым ліку і ў блізкіх нам рускай і ўкраінскай мовах.*

*У пісьмовай мове "ў" упершыню выкарыстоаў этнограф Пётр Бяссонаў. Літара з'явілася ў 1870 годзе на старонках яго кнігі "Беларускія песні".*

*"Ў" надае мове непаўторную меладычнасць, характэрную менавіта беларускаму вымаўленню. Гук [у] прамаўляецца з трохі выцягнутымі ў трубачку вуснамі.*

*Унікальная літара беларускага алфавіту пішацца ў большасці выпадкаў пасля галосных і мае толькі малы варыянт напісання. Выключэннем з'яўляюцца вершаваныя творы, дзе для захавання рытму "ў" можа замяняцца на "Ў".*

*Замежныя навукоўцы лічаць беларускую мову адной з самых прыемных для ўспрымання на слых сярод моў свету пасля італьянскай.*

*Сёння "ў" з'яўляецца адным з прадметаў нацыянальнага гонару. У гонар гэтай літары ўсталяваны помнік у Полацку. У гарадах Беларусі можна сустрэць крамы, рэстараны і рознага роду ўстановы, у якіх "Ў" з'яўляецца назвай".*

**12. Крыж Ефрасінні Полацкай**



**13. Зорка**
Зорка героя Рэспублікі Беларусь.

**14. Кветка Перамогі**
Яблынева кветка і стужка ў колерах нацыянальнага сцяга сапраўды



таленавітая кампазіцыя, якая цалкам адпавядае беларускаму менталітэту.

**15. Храм-помнік у гонар усіх святых і ў памяць пра ахвяры, якія для выратавання Айчыны нашай паслужылі**

**16. Знак якасці**

**17. Скарынаўскі знак**




**18. Палац незалежнасці**

**19. Месца сілы**

Сам па сабе падбор неблагі, хоць і няпоўны. Шкада толькі што не ўдалося пабачыць беларускамоўны варыянт.




*Яраслаў Грынкевіч.*

# Канцэрт да выбараў у Беліцы

Творчы калектыў філіяла "Беліцкі Дом культуры" падрыхтаваў канцэртную праграму "Незалежная, квітнеючая Беларусь" да выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Артысты сваімі песнямі падарылі выбаршчыкам цудоўны і святочны настрой на ўчастку № 41 (ам. Беліца).





*ТК "Культура Лідчыны".*





## Мы ганарымся сваёй краінай

Творчы калектыў філіяла "Ваверскі Дом культуры" выступіў з канцэртнай праграмай "Мы ганарымся своёй краінай!" на выбарчым участку № 44 (ам. Ваверка).






***ТК "Культура Лідчыны".***

## Твой голас першы

Канцэрт да Дня выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Першамайскім Доме культуры прайшоў атмасферна, святочна, гледачы падпявалі знаёмыя песні, і не шкадуючы далоняў пляскаалі артыстам.

Упрыгожваннем канцэрту стаў інструментальны ансамбль настаўнікаў Першамайскай дзіцячай музычнай школы мастацтваў " Верасень".








Зала была поўная гледачамі, цяплом і любоўю.

Юныя выбаршчыкі гулялі ў актыўнай зоне ў настольныя тэматычныя гульні.

***ТК "Культура Лідчыны".***

*Новае выданне*

# Выйшаў з друку літаратурны альманах "Новы замак"

Літаратурны альманах "Новы замак" (№13) гарадзенскіх літаратараў з партрэтам Васіля Быкава на беразе Нёмана на вокладцы пабачыў свет. Альманах вельмі разнастайны і цікавы, ён багаты на паэзію, прозу, літаратуразнаўчыя і краязнаўчыя матэрыялы.

Паэзію распачынае таленавіты паэт Рычард Бялячыц. Яго вершы проста зачароўваюць шчырасцю і лірызмам:

*Ты праз стагоддзе пачытаеш*
*Радкі эпосе дзіўнай той.*
*І будзе помніць веха тая*
*Душы настрой*
*І голас твой.*

Ад Рычарда Бялячыца не адстаў і старэйшы паэт Гарадзеншчыны Уладзімір Васько з Ліды. Навізной і вобразнай паэтычнасцю прасякнуты вершы Міколы Канановіча, Мечыслава Курыловіча, Віктара Сазонава, Янкі Трацяка, Алы Петрушкевіч.

*Непаэты пішуць вершы -*
*і чытаць няма чаго.*
*Галаву браток не вешай,*
*толькі б горай не было.*
*Во як рынуцца ў кнігарні*
*графаманы рыфмачы -*
*ты тады вазьмі і гаркні,*
*а пакуль што памаўчы.*
*(Уладзімір Васько.)*

*Паўсюдна рабатызацыя -*
*ніхто не лічыцца з ахвярамі,*
*ідзе да нас цывілізацыя,*
*ідзе, як малпа з акулярамі.*
*Ідзе, як быццам правакацыя, -*
*з крыўлянем нейкім ,*
*з крыкам, з матамі...*
*Такакя вось цывілізацыя -*
*Ідзе як малпа... ды з гранатаю.*
*(Янка Трацяк.)*

Даволі багата ў альманаху прадстаўлена проза творамі Міхася Зізюка, Альжбеты Кеда, Алы Нікіфорскай, Станіслава Судніка і іншых аўтараў.

У "Новым замку" надрукаваныя і згадкі пра тых асобаў, якія пакінулі гэты свет. Валянцін Дубатоўка прыгадвае сустрэчу з Яўстахам Севярынам Сапегам, Мікалай Даніловіч успамінае беларускага філолага Івана Лепешава (1924-2014), Сяргей Чыгрын згадаў гарадзенскага паэта і журналіста Уладзіміра Шурпу (1939-1998), а таксама доктара філалагічных навук Арсеня Ліса (1934-




2018) і апублікаваў яго эпісталярную спадчыну. Галіна Самойла напісала пра паэтку Алу Нікіфорскую, паразважала пра надзею і безнадзейнасць у аповесцях Васіля Быкава "Абеліск" і "Аблава".

З вялікім захапленнем чытачы прачытаюць дакументальную аповесць Леаніда Лаўрэша пра Больценікі і род Путкамераў. Шмат цікавага з яго даведаюцца пра Ваўжынца Путкамера і яго жонку Марылю Верашчаку, якую некалі кахаў Адам Міцкевіч.

Больш за 20 краін свету і Арганізацыя Аб'яднаных Нацый выпусцілі звыш 200 паштовых марак, прысвечаных Марку Шагалу. Сярод іх пяць, выдадзеных поштай Беларусі. Лявон Карповіч у сваім артыкуле распавядае пра Марка Шагала ў філатэліі.

У 1900-1939 гадах у Вільні выйшла з друку каля 50 беларускіх календароў. Пра гісторыю гэтых календароў распавядае Сяргей Чыгрын…

Літаратурны альманах "Новы замак" друкуе і шэраг іншых цікавых літаратурных твораў пісьменнікаў Гарадзеншчыны.

***Аксана Бельская.***





# Кнігі, якія аб'ядноўваюць народы

Мне ўдалося прачытаць у арыгінале кнігі і падзяліцца з маімі польскімі сябрамі з хрысціянскага клуба сеньёраў інфармацыяй літаратурнага і краязнаўчага характару, здабытай у Глыбокім на Беларусі, дзе нарадзіўся вельмі папулярны польскі пісьменнік міжваеннага часу з беларускімі каранямі - Тадэвуш Далэнга-Мастовіч, аўтар 16 аповесцяў і 4 сцэнароў найпапулярнейшых фільмаў.



У Глыбокім на доме, дзе жыў пісьменнік з бацькамі на вул. Кракаўскай (зараз - Савецкая), знаходзіцца мемарыяльная дошка.








З боку бацькі Тадэвуш Мастовіч паходзіў са шляхты, якая на працягу некалькіх пакаленняў жыла ў Вялікім Княстве Літоўскім. Род Мастовічаў карыстаўся старым польскім гербам Далэнга, які іх родапачынальнік - літоўскі баярын Манствілд - атрымаў у 1413 г. Маці паходзіла з абшарніцкага роду Жабка-Патаповічаў. Сям'я пісьменніка жыла ў Глыбокім. Яго бацька Стэфан быў там паспяховым адвакатам, а маці Станіслава, настаўніца па адукацыі, кіравала гаспадаркай, давала адукацыю дзецям і займалася дабрачыннасцю.







Тадэвуш Далэнга- Мастовіч вучыўся у гімназіі у Вільні, вывучаў права ў Кіеве ва ўніверсітэце, з 1924 года працаваў у рэдакцыі газеты "Rzeczpospolitej" у якасці рэпарцёра і палітычнага аглядальніка. З 1930 года цалкам прысвяціў сябе культурнай журналістыцы і літаратурнай творчасці, публікаючы па аднаму раману на год.

У Варшаве кнігі і фільмы, знятыя па сцэнарах Тадэвуша Даленгі-Мастовіча "Знахар" "Прафесар Вільчур", "Кар'ера Нікадэма Дызмы", "Тры сэрцы", "Тастамант прафесара Вільчура" і іншыя -вельмі папулярныя.

Прататып Знахара сапраўды існаваў насамрэч, як мне апавядалі ў Глыбокім мясцовыя краязнаўцы. Недалёка ад Глыбокага стаяў дом мясцовага лекара, які лячыў людзей народнымі сродкамі і хірургічнымі метадамі.













Адораны пісьменнік мог пражыць яшчэ доўга, калі б не загінуў 20 верасня 1939 года ў пачатку Другой сусветнай вайны ў Кутах... Старонкі яго раманаў "Знахар" "Прафесар Вільчур", "Тры сэрцы" - пра каханне, спачуванне, міласэрнасць, дапамогу - заўсёды кранальныя і актуальныя.

***Эла Дзвінская,***
***фота аўтара.***

*Станіслаў Суднік*

# БЕЛАРУСКАЯ МЕТАЛІНГВІСТЫКА

## Каса

Слова ***каса*** ў беларускай мове мае некалькі значэнняў:

1. Ручная сельскагаспадарчая прылада, якая складаецца з доўгага загнутага ляза, насаджанага на кассё і служыць для зразання травы, збажыны і інш.

2. Зброя, якая мае шырокую рэзальную частку, шырокае лязо.

3. Доўгія заплеценыя валасы.

4. Доўгая, вузкая паўвыспа, якая выступае ў мора ці возера.

5. Селязёнка.



### 1. Каса - прылада працы

Пачнём з таго, што ў глыбокай старажытнасці косаў не было зусім. Не знойдзена ні адной каменнай касы ва ўсім свеце, і ўявіпь нават цяжка, як яна магла б выглядаць, скажам, крамянёвая каса, і як ёй касіць.

Не давялося мне ні ў адной кніжцы на археалогіі, ні ў адным археалагічным зборы выявіць і бронзавую касу. Рабіць на грунце гэтага выснову пра тое, што і бронзавых косаў не было, мабыць, не карэктна, але зрабіць выснову, што ў бронтавым веку косы былі, не маючы ні аднога факта, яшчэ цяжэй. І тэхналагічна бронзавая каса малаверагодная.

Таму каса хутчэй та ўсё з'явілася пасля адкрыцця жалеза. Пра гэта ўскосна сведчаць грэкі. Па-грэцку ***sideros*** адначасова ***каса, серп, сякера, меч, сталь, жалеза***. Для сярпа ў іх ёсць і іншае слова, а вось слова ***жалеза - sideros*** прыменена да ўсіх асноўных прылад працы. Узнікла гэтае слова ад назвы народа ***дарыйцы (дорыйцы)***, якія ў 1300 годзе да нашай эры захапілі ўсю Грэцыю за кошт таго, што прыйшлі ўзброеныя жалезам. Захапіць то захапілі, але пераварыць не змаглі. Узнікла дарыйска-ахейская моўная сумесь, дарыйска-ахейская койнэ (трасянка). якую мы зараз называем старажытна-грэцкай мовай. Каса для грэкаў аказалася новай прыладай і проста *жалезкай*. Дарэчы ў Беларусі лязо гэбліка называюць *жаляскай*, прас (уцюг) таксама - *жаляска*.

Мы паспрабавалі паказаць, што да прыходу дарыйцаў (арыйцаў) грэкі не ведалі касы, але гэта не значыць, што дарыйцы яе ведалі на той час і прынеслі з сабой.

Мы паказалі, што тэхналагічна каса не магла з'явіцца раней, чым з'явілася жалеза, але пазней магла і ёсць праблема вызначыцца, наколькі пазней.

Каса магла з'явіцца толькі тады, калі ў ёй узнікла патрэба. Праблему жніва збожжа чалавек паспяхова вырашаў сярпом. Серп - прылада вельмі старажытная і вядомая яшчэ з каменнага веку. Праблему касьбы травы чалавек не вырашаў ніяк. У месцах зараджэння старажытных цывілізацый: Егіпет. Вавілон, Малая Азія, Індыя траву не касілі. Паша тут круглагадовая. Праблемы нарыхтоўкі сена на зіму не існавала. З'яўленне касы маглі выклікаць толькі новыя ўмовы, толькі перамяшчэнне людзей у месцы, дзе жывёла не магла пасвіцца круглы год, г.зн. перамяшчэнне жывелаводаў у зону глыбокіх снягоў. І тут першапачаткова задачу спрабавалі вырашаць сярпом. І слова ***сенажаць*** - гэта водгук той далёкай пары.

Новае слова ***сенокос*** мусіла быпь поўным сінонімам, але слова ***сенажаць*** закансервавалася, бо працэс жніва травы затух, а развіўся працэс касьбы і следам за працэсам развілося гняздо словаў.

Зыходзячы са сказанага, мы павінны выказаць здагадку, што ў сілу таго, што касьба ўзнікла пасля прыходу арыйскіх плямёнаў на поўнач, то лінгвістычнае абслугоўванне гэтага працэсу ў кожнага саюза плямёнаў фармавалася самастойна, а таму павінна вызначацца вялікім living рознабоем у фармаванні гнёздаў словаў для абслугоўвання касьбы.

Словаў ***каса, касьба, касец*** у санскрыце ў адносінах да прылады працы абапіраецца на корань ***kata***. **Касьба, пакос - *katanam*, касец - *katanakarta*, касіць касой - *kotuken katayet***. У санскрыцкіх словах праглядваецца слова ***кут***. Сапраўды каса ўтварае з кассём кут або вугал.

Касьба ў Індыі ў глыбокай старажытнасці практычнага сэнсу не мела, хаця ў больш познія часы з’явілася. Калі мы лічым арыйскія плямёны, якія прыйшлі ў Індыю нашчадкамі хетаў, то і хетам не было ніякай неабходнасці нешта касіць. Жывёлагадоўля ў хетаў была напаўвандроўная па тэрыторыях, дзе снегу не бачылі.

Не касілі сена і скіфы, хоць ім даводзілася жыць

ужо ў зоне снягоў, але снягоў не глыбокіх, і яны заўсёды маглі адвандраваць за мяжу снежнага покрыва.

Але вернемся да касы. Каса спатрэбілася паўночным народам: кельтам, германцам, балтам, славянам. Усе гэтыя народы на момант асваення імі Еўропы ўжо былі жывёлаводамі, прынамсі ведалі культуру жывёлагадоўлі. Таму пытанне нарыхтоўкі сена паўстала даволі хутка і востра. І калі ў перыяд пацяплення ім удалося прасунуцца і замацавацца на паўночных тэрыторыях, то перыяд пахаладання паставіў пытанне прыстасавання або адступлення. Адступаць не было куды. Паўднёвыя землі былі заселены яшчэ больш шчыльна. Людзі пачалі нарыхтоўваць траву на зіму. Жаць яе было малаэфектыўна. Каса павінна была з'явіцца, і яе прыдумалі. Хто і дзе? Гэта пытанне. Але асваенне яе кожнай групай народаў ішло самастойна і па сваіх законах.

Што тычыцца германцаў, то тут маем паступнае:

das Gras - трава, grasen - пасвіцца;

die Landzunge, die Nehrung, die Sense - усё гэта каса;

der Sichel - серп;

sehneiden, mahen, ernten - жаць;

mahen, dahinraffen - касіць;

die Mahd - касьба;

der Sehitter - касец;

die Grasmahmaschine - сенакасілка;

das Heu - сена.

der Henmahd, der Heuschlag - сенакос.

***Серп*** стаіць асабняком.

***Каса*** мае тры сіпонімы, а з дыялектамі яшчэ больш.

Слова ***mahen*** гэта і жаць і касіць.

Слова ***ernten*** аднаго кораня са словам ***die Ernte*** - ураджай.

***Сена*** - зноў асабняком.

***Die Grasmahmaschine*** - машына, якая косіць траву.

***Сенакос*** мае два сінонімы і ў абодва ўваходзіць слова ***сена***.

У выніку ніякай строгай сістэматызацыі не назіраецца. Архаічнае, безсістэмнае прыстасаванне розных словаў мовы да новага працоўнага працэсу. Аналагічна таму, як утвараюцца сучасныя неалагізмы кшталту: ***кустарэз, каменедрабілка*** і г.д.

Прыблізна тое самае мы бачым і ў іншых мовах.

Так, у летувіскай мове таксама з'явілася новае слова адпаведна новай прыладзе працы; ***dalyis - каса***, але ад гэтага слова ўзніклі ўсяго тры сінонімы: ***dalgiakotis, dalgikotis, dalgykslis***, якія абазначаюць ***кассё***, аналагічна як і ў беларускай мове дзяржак або тронца касы маюць назвы: ***кассё, касільна, касавільна*** і г.д. Астатнія словы з гэтага гнязда ўтвораны тут ад слова ***серп***, што з'яўляецца даволі лагічным ці ад слова ***жаць, piautuvas - серп, piauti - жаць, рэзаць, пілаваць, касіць***, ***piaunamoji masina - жнявярка (жпяярка)***, ***pianslikles - разак, sienapinte - сенажаць (сенакос), sienapiove - сенакасілка, sienantois - касец, pintynes - жатва, касавіца***. Заўважым, што ў адрозненне ад беларускай мовы ***серп*** і ***жаць*** тут аднаго кораня. І ўсе яны ўзыходзяць да дзеяслова ***рэзаць.*** У летувіскай мове сістэмнасць гэтага гнязда словаў значна большая, што само па сабе зразумела.Тут мы маем справу фактычна з мовай аднаго племені - жэмайтаў.

Што ж тычыцца германцаў, то іхняе мноства плямёнаў, безумоўна, павінна было даць вось такі роскід, які паступова “са свету па нітцы” сабраўся ў мову.

Ёсць, праўда, у летувісаў і слова ***nukirsti - жаць, зжаць***. І яны раздзяляюць ***nukirsti - зжаць*** і ***nupiauti - скасіць***. Так ***nukirsti hektara kviecin - зжаць гектар пшаніцы***, а ***visas pievas nupiauti - скасіць усе лугі***. Трэба меркаваць, што ***pukirsti*** - слова больш старажытнае, як і нашае ***жаць***, ***piauti - рэзаць*** развілося да значэнняў *пілаваць, касіць, жаць* значна пазней. У нас таксама дровы *пілуюць* і *рэжуць*.

Пераходзячы да беларускай мовы і, наогул, да славянскіх мы павінны мець на ўвазе ўжо атрыманы досвед: ***серп*** і ***жаць*** - ранні перыяд культуры і мовы; ***каса*** і ***касіць*** - позні перыяд.

**Серп**, як было сказана, стаіць асабняком. Палякі ўтварылі месяц ***серпень***. Магчыма, яшчэ хто. Мая бабуля па першым мужы была ***Сярпінская***. Але разгалінаванага гнязда словаў вакол ***сярпа*** няма. ***Серп*** - слова аднаскладовае і архаічна старажытнае.

Дзеянне, якое робіцца сярпом, абазначылі дзеясловам ***жаць***, які ў сваю чаргу не мог быць ста ражытным. хоць і аднаскладовы. У індаеўрапейскіх мовах у старажытны перыяд не было гука ***ж***. Гэты дзеяслоў тады гучаў, як ***яць***, што абазначала ***браць***. Ад ***яць*** узнік дзеяслоў ***с'яць - сабраць***, які далей і даў ***з'яць (зняць)*** і ***жаць***.

Дзеяслоў ***жаць*** утварыў даволі значнае гняздо словаў: ***жаць - жатва, жні - жніво, жне - жнец, жняя, пожня, жняярка (жнявярка), зажынаць - зажынкі, дажынаць - дажынкі***. І хай прыдзірлівы лінгвіст не чэпіцца да слова ***жатва***, што яно не зусім беларускае. Так, правільнае слова тут ***жніво***, але як лінгва-этнагафічная мадэль мае права на існаванне і ***жатва***, калі не ў жывой мове, то ў даследчых працах. І не трэба з лёту крычаць, што гэта русізм. Гэта беларуская форма, аналагічная словам ***бітва, дратва***. Проста форма старая, забытая, бяздарна падараваная расейцам.

Усе гэтыя словы датычацца збожавых і толькі слова ***сенажаць*** пераходзіць на траву.

Мы бачылі, як у летувіскай мове слова ***рэзаць*** пачало абслугоўваць працэс касьбы. Навукоўцы даводзяць нам, што калісьці існавала балта-славянская мова, і хоць гэта не зусім так, але шмат якія моўныя працэсы ў гэтых групах моваў цякуць ці, прынамсі, цыклі аднолькава. Таму лагічна пашукаць сінонім дзеяслова ***рэзаць***, які б абслужыў нам працэс касьбы. На першы погляд такога дзеяслова няма. Але заглянем у турэцкую мову.

Чытач, асабліва, калі чытач лінгвіст і, не дай Бог, са

ступенню, можа ў тэты момант проста абурыцца: "А пры чым тут туркі? Гэта не толькі іншая сям'я моваў, гэта іншая раса". Так то яно так, але цюркі засялілі краіну хетаў, засялілі краіну скіфаў, і ў іх мову пранік цэлы пласт інда-арыйскіх словаў. Яны на працягу тысячагоддзяў былі ва ўзаемадзеянні ці то мірным, ці то ваенным з інда-арыямі. Таму заглянуць у гэтую мову мы маем поўнае права. Канешне, хацелася б заглянуць і ў нейкую архаічную цюрскую мову кшталту старажытна-якуцкай, але ж як гэта зрабіць.

Дык вось у турэцкай мове ёсць слова ***kaset***, якое абазначае ***рэзаць, выразаць***. Але што такое *рэзаць*? Гэта - падзяляць на *кавалкі, кускі*. Але ***кусок*** можна проста ***адкусіць***. У беларускай мове інда-арыйскае слова ***kavala - глыток, кавалак*** выцесніла слова ***кусок***, але словы ***кусаць, закуска, укус*** засталіся. Дарэчы расейскае слова ***кушаць*** не што іншае, як тое ж ***кусаць***. Не дарам японцы кажуць: *кусаць - кусаць*. Але гэта дзеля жарту. Кусае воўк і сабака, кусае і адкусвае чалавек. Можа ўкусіць конь. Звычайна не кажуць што жывёла кусае траву. Нават у расейцаў конь "не кушает, а ест". У нас тым больш, жывёла *есць, скубе, жуе*, але можа і *адкусіць*. Такім чынам корань ***кус*** у нас ёсць. І калі каса косіць, то яна ці *рэжа* ***(kaset)***, ці *кусае, скусвае* траву.

А можа мы проста гэтае самае слова ***kaset*** запазычылі ў цюркаў разам з касой. Хутчэй за ўсё не. У турэцкай мове гэтае слова стаіць асабняком, што сведчыць пра яго запазычаны характер. **Каса** па турэцку ***- sac orgusu, tirpan, kil burun,*** **касіць** ***- biсmek***. Я не буду разбірацца, якое кенкрэтне слова адпавядае патрэбнай нам касе, але не будучы вялікім спецыялістам, кожны можа самастойна ўбачыць, што нічога падобнага на ***kaset*** тут няма.

Такім чынам мы трансфармавалі корань ***-кус-*** у ***-кас- (кос)*** і атрымалі з *кусаць* ***касіць***. Ну, а далей пайшлі ***каса, касец, касьба, касілка, кассё, касавільна, сенакос, сенакасілка, пакос, пракос, укос***, (прыстаўкі ***па-, пра-, у-*** арганічна стануць і да кораня ***-кус-***: ***пакусаць, пракусіць, укус***).

А можа дарэмна гэты агарод гарадзілі, можа ўсё прасцей. Можа слова ***каса*** пайшло ад таго, што ў адрозненне скажам ад дзіды, дзе наканечнік пасаджаны проста, каса названа касой, бо была пасаджана ***коса***, пад ярка выражаным вуглом ды і сама была не роўная, а крывая (касая). Можа. Але вернемся да нашых моваў, якія мы тут скарыстоўвалі. Па грэцку ***коса, наўскасяк - plagios*** (вось адкуль ***плагіят***).

Па нямецкаму ***коса - schraq, schiet, krumm***. Па летувіску ***коса - skersomis, касавокі - skersakis***. Ва ўсіх выпалках нічога блізкага да ***касы***. Па-беларуску і па-летувіску ***коса*** гэта значыць яшчэ і ***ў бок***. Каса тырчыць *у бок, коса*. З'явіўся ***касяк***, далей пайшлі ***наўскасяк, касавушка, скос*** і г.д.

І вось тут ізноў успомнім санскрыт, дзе слова ***каса (kata)*** па гучанні блізкае да слова ***кут***. І зноў схілімся да думкі, што назву дало ***касое*** (пад вуглом) мацаванне ляза.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Памёр Мікола Лавіцкі

24 студзеня пасля працяглай хваробы на 79-м годзе жыцця памёр Мікола Лавіцкі - аўтазаводзец, грамадскі дзяяч, абаронца беларускай мовы.



Мікола Лавіцкі быў актывістам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, прыхільнікам ідэяў беларускай сацыял-дэмакратыі.

Большасць жыцця Лавіцкі працаваў на Менскім аўтамабільным заводзе, займаў пасады ў прафсаюзных і грамадскіх арганізацыях.

Ён нарадзіўся на Сенненшчыне ў 1946 годзе, скончыў школу майстроў Менскага аўтазавода і там жа працаваў кавалём, электраманцёрам, тэрмістам, быў старшынём прафкаму аўтамабільнай вытворчасьці.

Быў аўтарам кніг "Радзімы покліч", "Пульс дарогі" і "Куламеса: вершы".

Светлая памяць.

# А мова жыве







Аляксандр Мяйштовіч

# Князь Мірскі[1]

## Фрагмент успамінаў

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Калі цягнік спыніўся ў Царскім Сяле, да мяне падышоў нейкі пан у прыдворным мундзіры, які падчас нашай дарогі сядзеў у купэ побач са мной разам з чыноўнікам, на якога скоса паглядаў. Пан коратка прадставіўся: "Ліндэр, фінлядзец", на што я адказаў: "Мяйштовіч, паляк". "Я адразу зразумеў, што вы - не расеец, - сказаў мне Ліндэр, - нам прысылаюць адзін вагон на два чалавекі, і я хацеў бы прапанаваць вам на адваротным шляху ехаць разам, а чыноўнікі хай едуць асобна". Я з радасцю пагадзіўся, і па дарозе Ліндэр распавёў пра ціск ў бок Фінляндыі. "Пра палітыку ў Польшчы кажуць, што гэта вынік вашых паўстанняў. Гэта казка, таму што нас таксама рэпрэсуюць, хоць паўстанняў у нашай краіне не было".

Неўзабаве мы стаялі перад павільёнам, дзе нас пачаставалі кавай і гарбатай. Я заўважыў, што павільён абстаўлены сціпла. На сценах віселі выявы кіруючай дынастыі, такія ж, якія ў той час упрыгожвалі паштовыя станцыі на нашых дарогах. З павільёна нас адвялі ў раскошны імператарскі палац, дзе мы прайшлі праз шэраг гасцёвень, упрыгожаных пасрэднымі карцінамі. Памятаю, у адной з іх стаяла адпаліраваная, нахіленая горка для імператарскіх дзяцей, якія дзеля забавы скочваліся з яе.

Нарэшце мы стаялі ў вялізнай палацавай бібліятэцы з вялікімі шклянымі бібліятэчнымі шафамі, якія часта сустракаюцца ў нашых маёнтках. У царскім палацы мелася вельмі прыгожая капліца і першакласныя салоны, якія я потым убачыў падчас урачыстых прыёмаў, - але гэтыя салоны не адкрываліся для публічных аўдыенцый. У той час у бібліятэцы мелася карта ваенных дзеянняў з пазначанымі пазіцыямі абодвух ваюючых бакоў, і характэрна, што некалькі чалавек аналізавалі гэтыя пазіцыі з саркастычнымі каментарамі аб становішчы рускіх войскаў. Мы доўга чакалі ў бібліятэцы, таму што імператар прымаў аднаго з замежных пасланнікаў, якія нядаўна прыбылі ў Расію. З бібліятэкі нас павялі шырокім светлым калідорам, дзе мы ўбачылі двух экзатычных ахоўнікаў імператарскай сям'і, у прыгожы пакой побач з імператарскім кабінетам. Я заўважыў там некалькі шэдэўраў жывапісу і вельмі добра прадуманы круглы дзвярны праём, які злучае гэты пакой з верхнімі імператарскімі апартаментамі. Праз некаторы час нас пашыхтавалі ў кола, пачынаючы ад дзвярэй, якія вядуць у кабінет імператара. Калі імператар увайшоў, кожны з нас яму прадставіўся. Гэта было зручна для прыдворных чыноўнікаў, але непрыемна, як прыдворны цырыманіял. Усе казалі не тое, што ім пашанцавала, а тое, што яны маюць гонар прадставіцца Найяснейшаму Уладару, дадаўшы сваё імя і назваўшы прычыну прадстаўлення. Імператар перакідваўся з усімі некалькімі словамі, ціснуў кожнаму руку, затым той хто прадстаўляўся, выходзіў з залы, і імператар падыходзіў да наступнага. Размовы былі кароткімі. "Прадстаўляю Вашай Вялікасці сваю працу па гэтай тэме", "Дзякуй, тэма цікавая", "Я вылучаны на гэткую пасаду", "У вас будзе выдатная праца на гэтай пасадзе", "Калі вы прыехалі і калі вы з'язджаеце з Санкт-Пецярбурга?", "У такі та дзень, Ваша Вялікасць", "Я так разумею, што вас дома чакае сур'ёзная праца" і г. д. Кола тых, хто прадстаўляўся было расстаўлена па службовых занятках. Я застаўся апошнім, таму што ў мяне няма занятку. Ліндэр стаяў перада мной. Адзін за адным госці сыходзілі, і ў рэшце-рэшт у пакоі засталіся толькі імператар, Ліндэр, я і імператарскі ад'ютант Нарышкін, які стаяў збоку, недалёка ад дзвярэй, якія вялі з калідора. Калі імператар падышоў да Ліндэра, Ліндэр без усялякіх прадстаўленняў коратка назваў імя, дадаўшы толькі, што ён з Фінляндыі. Імператар спытаў яго, ці з'яўляецца ён сынам старшыні фінскага парламента. І Ліндэр адказаў па-расійску, што ён сын старшыні Сойму, а потым перайшоў на французскую мову і, павольна прамаўляючы кожнае слова са скандынаўскім акцэнтам, сказаў наступнае: "Але, калі ласка, Ваша Вялікасць, дазвольце мне гаварыць па-французску. Некаторы час служыў у Расіі, але зараз фактычна страціў навыкі". Калі Ліндэр перайшоў на французскую, я заўважыў бляск у вачах імператара, якому, відаць, не падабалася тут французская мова, але Ліндэр працягваў: "Быў скліканы фінскі сойм. Мы ўсе спадзяёмся, што ён будзе працаваць на карысць нашай любімай краіны і да задавальнення Вашай Вялікасці". "Я таксама на гэта спадзяюся", - сказаў імператар па-французску і пацісnуў руку Ліндэру, які сышоў, дасягнуўшы мэты аўдыенцыі, бо хацеў толькі падкрэсліць, што фіны размаўляюць з імператарам не па-руску, але на дыпламатычнай мове. Я ўспомніў, што і мы некалі біліся за французскую мову ў афіцыйных ста-

[1] Meysztowicz Aleksander. Fragment "Wspomnien" // Bialoruskie Zeszyty Historyczne. 2004. № 21. S. 218-249. Пераклад Леаніда Лаўрэша.

сунках.

Калі імператар звярнуўся да мяне, я назваў сваё імя без усялякіх дапаўненняў, як і Ліндэр, патлумачыўшы толькі, што я з Ковенскай губерні, імператар сказаў мне, што вяртаючыся з Менска, ён праехаў праз частку Ковенскай губерні, і што дэлегацыі ковенскай шляхты ўдалося прадставіцца яму на нейкай невялікай чыгуначнай станцыі. Я не быў на гэтым прадстаўленні, але там быў мой брат, і я ведаў, што яна адбылася 22 снежня на пероне станцыі Турманты па ініцыятыве кн. Мірскага, што была халодная раніца і што Станіслаў Мантвіл з Трашкун, як старэйшы з прысутных, прадставіўся першым. Таму я заўважыў, што прэзентацыя праходзіла ў Турмантах і што мы непакоіліся пра здароўе імператара, бо на двары было холадна, на што імператар ветліва адказаў, што ён быў у форме і ў пагонах, і што не ён, а яны маглі лёгка прастудзіцца, асабліва старэйшы пан, які стаяў першым у чарзе. "Баюся, каб потым не захварэў", - сказаў імператар. "Ён у поўным здароўі, Ваша Вялікасць", - адказаў я, і жадаючы перайсці да больш сур'ёзнай размовы, дадаў, што мы прадстаўляемся ў фраках, бо не маем шляхецкіх мундзіраў, таму што пазбаўлены дваранскіх выбараў. "Маеце не абраных маршалкаў, а прызначаных", - сказаў на заканчэнне імператар. Значыць, імператар ведаў, што маем прызначаных маршалкаў, і мог даведацца пра гэта ад кн. Мірскага, бо аднаўленне дваранскіх выбараў было адным з пунктаў яго праграмы. Аднак імператар не захацеў працягваць размову на гэтую тэму і адразу спытаў мяне, ці прыехаў я непасрэдна з Ковенскай губерні. Каб павярнуць гутарку на больш сур'ёзную размову, я адказаў, што прыехаў з Вільні, у якой адбыліся вялікія змены, бо кн. Мірскі з’ехаў і замест яго зараз генерал Грыпенберг. "Пайшлі ў гару віленцы", - імператар зноў зрабіў паўзу і спытаў мяне, ці жыву я яшчэ на вёсцы, і калі я адказаў, што жыву на вёсцы і ўлетку, і ўзімку, ён пачаў разважаць пра прывабнасць сельскай мясцовасці, бо толькі на сяле можна дыхаць глыбока і працаваць спакойна. Я ўзяў на сябе смеласць заявіць, што ўсе абшарнікі жывуць на вёсцы і што жыццё на вёсцы дае магчымасць удасканальваць сваю гаспадарку і развівае тыя прынцыпы кансерватызму, якія падзяляюць усе нашы абшарнікі. "Я рады гэта пачуць", - сказаў імператар, і на гэтых словах аўдыенцыя скончылася.

Мая размова з імператарам прайшла гладка, і ў мяне склалася ўражанне, што імператар не аддае перавагу размовам з чыноўнікамі. Я размаўляў з імператарам даўжэй за іншых, можа, таму, што застаўся апошнім. Аднак гэта заўважыў дзяжурны ад'ютант імператара Нарышкін, які назваў мне сваё імя, калі я ад'язджаў, і я злёгку яму пакланіўся. Гэта заўважылі чыноўнікі, якія пасля прадстаўлення вярнуліся ў палацавую бібліятэку і пыталіся пра мяне.

Як член Дзяржаўнага савета, я прысутнічаў потым на ўрачыстасцях у Царскім Сяле і ўспамінаў сваю размову з імператарам. У Мікалая II была добрая памяць, бо калі пасля заканчэння гімназіі яму прадставілі майго сына, ён спытаў, ці не сын ён члена Дзяржаўнага савета.

Высокія расійскія чыноўнікі, з якімі я сустракаўся ў Дзяржаўным савеце, не любілі імператара і казалі, што ён подлы і пошлы (подленький и пошленький). Вельмі магчыма, але сваю ролю ў гэтым меркаванні мела і асабістая канкурэнцыя. Аднак вядома, што імператар не ведаў, што адбываецца навакол, што часта адбываецца з людзьмі, якія ўзначальваюць краіны. Імператар працаваў паслухмяна, ён ведаў сваіх міністраў, кожны тыдзень прымаў і слухаў іх даклады. Прымаў іх часцей, чым некаторыя кіраўнікі рэспубліканскіх дзяржаў. Але Ярмолаў казаў мне, што імператар гаварыў з міністрамі толькі аб іх міністэрствах і не выходзіў за гэтыя рамкі, і што Ярмолаў, які шмат гадоў быў міністрам земляробства, ніколі не дапускаў агульных размоў. Я заўважыў, што гэтак, відаць, было і падчас маёй кароткай аўдыенцыі, таму што калі я ўставіў нешта пра намінаваных маршалкаў і князя Мірскага, у імператара бліснулі вочы, гэтак жа, калі Ліндэр перайшоў на французскую мову. І я зразумеў, што далей ісці не трэба.

Пасля аўдыенцыі мы вярнуліся ў наш павільён, дзе нас чакаў сціплы абед, які я з'еў у суседстве з Ліндэрам. Мы пайшлі разам, пакінуўшы пад дэсертнай талеркай па 5 рублёў для прыслугі. Я сказаў Ліндэру, што разумею яго намеры і ён прызнаўся мне, што папрасіў аўдыенцыі толькі для таго, каб у сваёй размове з імператарам перайсці на французскую мову. Мы з Ліндэрам рассталіся на вакзале ў Пецярбургу, і больш я яго не бачыў.

Падчас майго знаходжання ў Пецярбургу адбыўся дзіўны выпадак. 6 студзеня, калі гарматы, пастаўленыя на біржавой плошчы за Нявой, стралялі, каб надаць пышнасці іярданскім святам, у Зімовы палац была выпушчана граната, у выніку якой быў забіты вартавы і выбіты вокны ў палацы. Версія сцвярджала, што гэта быў добра спланаваны напад, які выклікаў бы небывалую катастрофу, калі б граната трапіла ў павільён на Няве, дзе адбывалася іярданаўская цырымонія ў прысутнасці імператара і яго світы. Аднак расследаванне паказала, што аварыя адбылася па неасцярожнасці, бо ў адной з гармат з часоў восеньскіх манеўраў засталася снарад-граната. У выніку вайскоўцы, вінаватыя ў гэтай падзеі, панеслі пакаранне, але вельмі ўмоўнае, нягледзячы на магчымыя наступствы іх нядбайнасці. [...]

Князь Мірскі ведаў аб маёй аўдыенцыі ў імператара і распытваў мяне пра яе, а на развітанне са мной даў зразумець, што, напэўна, у бліжэйшы час ён будзе вымушаны пакінуць сваю пасаду, але адначасова запэўніў, што я магу быць цалкам спакойны за выкананне сваіх віленскіх





абяцанняў. "Камітэт міністраў распрацоўвае адзін за адным пункты, пералічаныя ў распараджэнні ад 12 снежня 1904 г.", - сказаў кн. Мірскі - "але я буду старацца, каб асновы пунктаў 6 і 7 дэкрэта (а менавіта пункты аб верацярпімасці і аб скасаванні нацыянальных абмежаванняў) былі замацаваны ў духу роўнасці правоў і гэтыя падмуркі ўжо абавязковыя для выканання.

І сапраўды, 17 красавіка і 1 траўня 1905 г. былі абвешчаны два імператарскія ўказы: першы аб верацярпімасці і другі аб пераглядзе абмежаванняў для нацыянальнасцяў. [...]

Пункт зацверджанай пастановы Камітэта міністраў ад 1 траўня 1905 г. (дзейнічаў як распараджэнне) загадваў адмяніць усе пастановы, якія абмяжоўвалі выкарыстанне мясцовых моў у Заходнім краі на працягу максімальнага перыяду ў 6 месяцаў, .... Пэўныя абмежаванні моўных правоў захоўваліся праз пастанову Дзяржаўнага Савета, ад 27 мая 1906 г., якая прадугледжвала, што справаздачы прыватных таварыстваў павінны складацца на рускай мове. Выключэнне складала толькі Ковенская губерня, якой дазвалялася падаваць даклады на рускай і адной з мясцовых моў і весці пасяджэнне не толькі на рускай, але і на адной з мясцовых моў. [...]

Дэкрэт аб верацярпімасці меў вынікам неадкладны пераход цэлай групы былых уніятаў у каталіцтва, а дэкрэт аб пераглядзе нацыянальных абмежаванняў даў нам магчымасць заснаваць шмат дзіцячых дамоў і польскіх школ, якія падтрымалі ўжо знікаючую польскасць у шырокіх слаях нашага насельніцтва. Гэтыя пастановы таксама ўнеслі сур'ёзныя змены ў забарону куплі зямлі каталікамі і аднавілі дваранскія выбары, што забяспечыла нам маршалкаў з мясцовай шляхты і аднаўленне польскага ўплыву ў краі. [...]

*Пераклад Леаніда Лаўрэша.*

# Памёр пісьменнік Віктар Гардзей

***23 студзеня ў Менску памёр беларускі пісьменнік Віктар Гардзей. Ён пражыў 78 гадоў.***



Нарадзіўся Віктар Гардзей у вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння ў 1964 годзе сярэдняй школы працаваў у калгасе. У 1965-1966 гадах ён быў супрацоўнікам ляхавіцкай раённай газеты "Будаўнік камунізму", з 1967 па 1983 год з'яўляўся загадчыкам аддзела пісьмаў, адказным сакратаром і намеснікам рэдактара ганцавіцкай раённай газеты "Савецкае Палессе". У 1983 годзе пераехаў у Менск, дзе пачаў працаваць у часопісе "Беларусь". Завочна скончыў у 1984 годзе факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у часопісах "Маладосць", "Полымя", "Вожык", выдавецтве "Мастацкая літаратура", у газеце "Літаратура і мастацтва".

У друку Віктар Гардзей упершыню выступіў у 1963 годзе з апавяданнем "Памылка". З сярэдзіны 1970-х гг. пачалі выходзіць яго зборнікі паэзіі. Сярод іх - "Касавіца" (1975), "Верасное палясоўе" (1978), "Засевак Радзімы" (1983), "Незабудкі азёр" (1985), "Узрушэнне" (1988), "Дзікая пчала" (1994), "Зялёныя дажджы" (1997), "Межань" (1999), "Трыадзінства" (2010) і іншыя. У вершах паэт апісваў хараство беларускай прыроды ў розныя поры года, экалагічнае бедства пасля чарнобыльскай трагедыі, закранаў маральна-этычныя і сацыяльныя праблемы вёскі, адлюстроўваў боль абпаленага вайной пакалення. Паэт заклікаў знайсці ў сабе сілы, каб пераадолець песімізм, душэўную адзіноту. Яго лірычны герой і сёння спяшаецца жыць, дзеліцца вялікімі і малымі радасцямі.

Шматгранны талент Віктара Гардзея раскрыўся ў розных жанрах: паэзіі, крытыцы, журналістыцы. Аднак, найбольш ярка ён праявіўся ў празаічных творах. Аповесць "Дом з блакітнымі аканіцамі" дала назву першай кнізе прозы (выдадзена ў 1984 г.). Многія творы Віктара Гардзея напісаны на матэрыяле Берайсцейшчыны, а прататыпамі яго літаратурных герояў сталі жыхары роднай вёскі Малыя Круговічы, якія з лёгкасцю пазнаюць сябе ў кожным новым творы пісьменніка. Чытачамі і крытыкай былі станоўча ўспрыняты трылогія "Аселіца ў басейне Чорнага мора" (2000), раман "Бедна басота" (2003), зборнік аповесцей і апавяданняў "З мінулага не вяртаюцца…" (2013). Віктар Гардзей напісаў шмат твораў для дзяцей, якія ўвайшлі ў зборнікі вершаў "Чырвоны грабеньчык" (1976), "На арэхавай палянцы" (1982), "Коцікі на вярбе" (1988), "Мой тата - трактарыст" (1989), "Зай, які лічыў варон" (1991), "Зайкава балалайка" (1998), "У бары на зары" (2001), "Малая дзіцячая Чырвоная кніга" (2008). Плённа працаваў пісьменнік і ў галіне перакладу.

У 1993 годзе Віктар Гардзей стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Івана Мележа, у 2008 г. дыпламантам Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор года "Залаты Купідон". Імем пісьменніка названа вуліца ў вёсцы Малыя Круговічы; на месцы дома, дзе ён нарадзіўся, у 2017 годзе быў устаноўлены памятны знак.

***SS.***



№ 5 (161) 29 СТУДЗЕНЯ 2025 г.
наша СЛОВА.pdf

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Паводле аўтарытэтаў: Агурцоў, Аўсянка, Лосіч, Магілёўцаў; Мікалай Румянцаў і Руская Амерыка (паводле Андрэя Грынёва)*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-52 (105-156) (2024); № 4 (157-160) за 2025 г.)*

Што напісаў пра сувязі графа Мікалая Румянцава з Рускай Амерыкай найбуйнейшы даследчык гісторыі апошняй Андрэй Грынёў (Андрей Гринев, Andrei Grinev) у сваім біяграфічным даведніку 2009 г.

***Андрэй Грынёў***

РУМЯНЦАЎ (РУМЯНЦОЎ [РУМЯНЦОВ]) Мікалай Пятровіч (1754-1826) - граф, старэйшы сын генерал-фельдмаршала П.А. Румянцава, міністр камерцыі (1802-1810), міністр замежных спраў (1807-1814), з 1809 канцлер, а потым старшыня Дзяржаўнага савета (1810-1812). У пачатку 1800-х Р. стаў акцыянерам РАК і спрыяў арганізацыі першай рускай кругасветнай экспедыцыі на шлюпах "Надзея" (капітан-лейтэнант І.Ф. Крузенштэрн) і "Нява" (капітан-лейтэнант Ю.Ф. Лісянскі) пад эгідай РАК у 1803-1806. У цэлым Р. пэўным чынам апекаваўся над кампаніяй, але ў той жа час адмовіўся стаць яе афіцыйным хадайнікам перад пасадам [престолом], пра што яго прасіла ГП РАК [Галоўнае праўленне Расійска-амерыканскай кампаніі] пасля смерці М.П. Разанава. Акрамя таго, ён вельмі стрымана ставіўся да пашырэння ўладанняў кампаніі на Паўночна-Заходнім узбярэжжы Амерыкі і не разглядаў уладанні Расіі ў гэтым рэгіёне як істотныя для імперыі. У жніўні 1814 Р. сышоў у адстаўку і з асабістых сродкаў фінансаваў кругасветную экспедыцыю брыга "Рурык" (лейтэнант О.Я. фон Кацэбу) у 1815-1818, якая двойчы пабывала ў Рускай Амерыцы




***Управление культуры Гомельского облисполкома 1994-04-05 (конверт)***

**РУМЯНЦЕВ** (РУМЯНЦОВ) Николай Петрович (1754–1826) – граф, старший сын генерал-фельдмаршала П.А. Румянцева, министр коммерции (1802–1810), министр иностранных дел (1807– 1814), с 1809 канцлер, а затем председатель Государственного совета (1810–1812). В начале 1800-х. Р. стал акционером РАК и способствовал организации первой русской кругосветной экспедиции на шлюпах «Надежда» (капитан-лейтенант И.Ф. Крузенштерн) и «Нева» (капитан-лейтенант Ю.Ф. Лисянский) под эгидой РАК в 1803–1806. В целом Р. оказывал определенное покровительство компании, но в то же время отказался стать ее официальным ходатаем перед престолом, о чем его просило ГП РАК после смерти Н.П. Резанова. Кроме того, он весьма сдержанно относился к расширению владений компании на Северо-Западном побережье Америки и не рассматривал владения России в этом регионе как существенные для империи. В августе 1814 Р. ушел в отставку и из личных средств финансировал кругосветную экспедицию брига «Рюрик» (лейтенант О.Е. фон Коцебу) в 1815–1818, которая дважды побывала в Русской Америке (1816–1817). Затем он способствовал финансированию экспедиции П.Г. Корсаковского в бассейн р. Нушагак в 1818 и в дальнейшем проявлял интерес к географическим изысканиям русских в Новом Свете, спонсируя экспедиции по изучению Аляски.

***Article on Nikolai Rumiantsev from Who is Who in the History of Russian America by A. Grinev (2009, in Russian)***

